Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:**
**Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).**
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр.
Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.
Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана абвестак:** перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пятыту ў 1 шпальту.

№. 25 Вільня, Субота, 16-га кастрычніка 1926 г. Год І.

## Ідэя і кулак.

Устрывожаная магутным ростам актыўнасьці і палітычнае самадзейнасьці беларускіх працоўных масаў, польская прэса *розных кірункаў* дружна распачала концэнтрычную атаку проці „Грамады“. Асабліва харак-тэрным зьяўляецца апошняе выступленьне — ў вадзін дзень, як па камандзе „зьверху“, — двух урадавых органаў у Вільні: „Słowa“ (ўрадавая правіца) і „Kur. Wil.“ (ўрадавая лявіца). Выступленьні гэтыя, побач з радам папярэдніх, зьяўляюцца як-быццам *прадвесьнікам рэпрэсіяў проці „Грамады“* (якія ўжо распачынаюцца дзе-недзе на правінцыі) і дзеля гэтага заслугуюць на асаблівую ўвагу.

„Słowo“, якое нядаўна сцьвярджала зусім *легальны характар арганізацыйнае працы „Грамады“*, цяпер суліць польскай дзяржаўнасьці „паважную небясьпечнасьць“ і заяўляе, што „недаацэніваньне сілы гэтага руху можа нарабіць нам (Польшчы) вялізарных клапотаў“. Бо-ж „сець гурткоў абыймае Крэсы ад Палесься па літоўскую граніцу, ад Стоўпцаў да паўночна-ўсходніх паветаў Беластоцкага ваяводзтва“,—дзе, значыцца, ня гледзячы на ўсе польскія афіцыяльныя статыстыкі, жыве... беларуская маса!

Прадстаўляючы яўнае імкненьне абшарніцка-пілсудскага офіцыёзу справацыраваць мяйсцовую адміністрацыю да ўжыцьця *незаконных* мэтадаў барацьбы з Грамадой (бо-ж у дзеяльнасьці сваей *яна* дагэтуль не пераступала польскіх законаў!), — апошняе выступленьне „Słowa“ (№ 239 з 13 кастр.) зьяўляецца адначасна *капітуляцыяй* газэты перад беларускім рухам: то-ж яшчэ так нядаўна ў тым-жа „Słowie“ мы чыталі „аўторытэтныя“ заявы, што беларусы—гэта нуль, што з імі няма патрэбы лічыцца, а трэба, наадварот, шукаць паразуменьня — з жыдамі і немцамі, каб гэтак разьбіць салідарнасьць уціканых у Польшчы „інародцаў“ і аканчальна зьнішчыць беларусаў, як нацыянальнасьць. А тут—маеш табе: *„паважная небясьпечнасьць“, „вялізарныя клапоты“* і г. д.! Значыць, беларусы—гэта сіла, і сіла не малая, з якой польская дзяржаўнасьць *мусіць лічыцца*—дый вельмі паважна.

Ведама, абшарніцкі орган яшчэ верыць, што сілу *маральную* руху беларускіх працоўных масаў можна зламаць сілай *фізычнай*: паліцэйскімі рэпрэсіямі, хоць-бы й супярэчнымі з істнуючымі йшчэ ў Польшчы—прынамся на паперы — палітычнымі свабодамі. Мы маем доказы, што ў цэлым радзе паветаў адміністрацыя—мо‘ пакуль-што на сваю руку—і надумалася *кулаком забіць ідэю.* Але ўжо наперад можам сказаць, што такая спроба не дасягне сваей мэты: бо *ідэя наша—несьмяротная*, як несьмяротны і народ беларускі!

З апошнім як-быццам прымушаны згадзіцца і орган урадавае лявіцы—„Kurjer Wil.“, які ў той-жа дзень, як і „Słowo“, зьмясьціў абшырную перадавіцу аб „Грамадзе“. Падаўшы напачатку жменю „інфармацыяў“ аб імкненьнях і мэтах Грамады (— інфармацыяў, выразна падыктаваных з „усёведаючае“ *дэфэнзывы*!), орган польскіх казённых „дэмакратаў“ наперад апраўдывае ўрад у праектаваным, як відаць, паходзе *проці адзінае паважнае беларускае масавае арганізацыі.* „Урад... мае ня толькі права, але і абавязак з усей энэргіяй супраціўіцца руйнуючай рабоце, якая імкнецца да разьбіцьця дзяржавы“.—Але... „але энэргічная акцыя ў гэтым кірунку дасьць пажаданыя вынікі *толькі тады, калі ўрад з усей энэргіяй выступіць проці гвалчэньня ўласнай адміністрацыяй Канстытуцыі ў адносінах да беларускага насяленьня*, калі шчыра заапякуецца патрэбамі беларускае люднасьці, забясьпечываючы ей магчымасьць творчае культурнае працы, не тамаванай лятуценьнямі аб прымусовым апалячаньні“. Інакш—„акцыя, якая цяпер разьвіваецца адкрыта, *будзе ўвагнана ў падзямельле,* каб пры першым парыве нова е гістарычнае навальніцы *выбухнуць крывавым пажарам*“...

Калі, калі... Вось у гэтым „калі“ і ўся справа! Бо-ж адкрыта ўжо абгаварываны *паход улады проці „Грамады“*, у дзеяльнасьці якое навет абшарніцкі орган не знайшоў *нічога процізаконнага*, будзе новым — ў дадатку да ўсіх папярэдніх — *„згвалчэньнем Канстытуцыі ў адносінах да беларускага насяленьня“*—з усімі тымі вынікамі, якія прадбачаць нашы „дэмакратычныя“ ворагі...

Паўтараем: *ідэі кулаком не заб‘еш*! І з поўным спакоем глядзім мы у будучыну, бо яна—наша!

## Да каапэрацыі!

(*Заклік з вёскі*).

У апошнія гады наша вёска ўсё ўпорчывей да ўпорчывей шукае выхаду з ахапіўшага яе, як жалезнымі абцугамі, бяздзельля і нуды. Вёска кідаецца ўва ўсе бакі і наканец знайшла праўдзівы выхад у Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе. Грамада ўжо лічыць дзесяткі тысяч сяброў, сотні гурткоў, раскіданых па вёсках нашае Заходняе Беларусі. Грамада расьце! Сотні новых сяброў прыбываюць штодзенна. Кожны сьпяшаецца, нібы баіцца спазьніцца, астацца адным.

Такі магутны поступ арганізацыі сялянства вітае кожны, хто хоча бачыць наш народ хутчэй вызваленым з гэных абцугоў. Вітайма і мы ды бярэмося ўсе за аднаго і адзін за ўсіх, упорліва шукайма лепшай долі і знойдзем! Шукайма грамадой не для аднаго сябе, а для ўсіх, тады толькі знайдзеш і сваю належную часьціну.

Але шукайма не ў аднэй Грамадзе, але й там, на што дагэтуль не зьвярталі належнай увагі. Разам Грамадой шукайма і ў асьвеце і ў каапэрацыі. Трэ‘ добра памятаць, што хоць „ў яднаньні сіла“, але гэта сіла бяз веды варта мала.

Ад чаго мы бедны? Ад таго што цёмныя. Ад чаго мы цёмныя? Ад таго, што бедныя. Вось наша прыпеўка, вось казка пра белага бычка, вось зачарованае кола, з якога, здаецца, няма выхаду.

Калі-ж мы скончым казку? Калі ж вылязем з зачарованнага кола?—Тады, калі пачнем працаваць усебакова. Разам вызваляцца ад цёмры, узмацняць сябе матэр‘яльна, і арганізоўваць свае сілы. Гэта йзноў можна зрабіць толькі грамадой, і „Грамада“ дапаможа нам узмоцніць наш культурны і гаспадарчы стан.

Асаблівую ўвагу трэ‘ зьвярнуць на каапэрацыю: яна ўзгадоўвае дух грамадзкасьці, прывучае да хаўруснае працы, дый дапамагае змагацца з вызыскам гандляроў. Каапэрацыя дае нам танны ў патрэбе крэдыт (каапэратыўны банк); каапэрацыя ўстрымлівае цэны на тавар, (каапэратыў „спажывецкі“) дае нам добрай якасьці тавар па сярэднім рынковым цэнам; каапэрацыя арганізуе збыт прадуктаў земляробства па даражэйшым цэнам. Словам—калі мы захочам, каапэрацыя можа нам дапамагчы ў каждай галіне нашага жыцьця. Яна-ж можа на чысты даход утрымліваць школы, адчыняць біблістэкі і г. д. Каб каждая гміна з‘арганізавалася ў каапэратыў, а ўсё каапэратывы ў вадзін Саюз,— якую моцную гаспадарчую арганізацыю мелі-б мы ў сваім краі! Той даход, які ад каапэратываў, а за імі—заадно — і ад нас (—бо мы, спажыўцы, урэшце плацім за ўсё!) уплывае ў Варшаву, астаўся-б тут і пашоў бы на нашы патрэбы.

Ці-ж не пара над гэтым затрымацца, ці не пара падумаць усім, а гурткам Грамады ў першую чаргу, абмазгаваць, вырваць з рук ашуканцаў-гультаёў нашы трудавыя грошы, зьвярнуць хутчэй увагу па каапэрацыю. Там, дзе каапэратыў істнуе і працаўнікі адпаведныя, — ўсё стараньне прылажыць, каб сяляне ўступалі ў сябры, а галоўнае, каб куплялі ў каапэратыве патрэбныя ім тавары. Там, дзе працаўнікі не адпаведныя, заменіць іх другімі, а дзе трэба, — адчыняць новыя каапэратывы. Каапэрацыя — магутная сіла: яна дапаможа вызваліцца нам і выйсьці па лепшы шлях жыцьця.

Дык ідзем грамадой у каапэрацыю. Гурткі, да працы ў каапэрацыі!

**Васіль Гай.**

## У Польшчы.

### „Камітэт абароны дзяржавы“.

Рада міністраў пастанавіла стварыць „Камітэт абароны дзяржавы“. Здаецца, нешта падобнае было створана ў 1920 г. — пасьля павароту польскіх арміяў з Кіева... Толькі цяпер Камітэт будзе значна менш чысьлены.—У склад Камітэту ўваходзяць: прэзыдэнт Рэспублікі, прэм‘ер, ваенны міністар, інспэктар генарльны арміі і міністар фінансаў. Здавалася-б усяго—5 асоб. Але з прычыны таго, што прэм‘ер, ваенны міністар і генаральны інспэктар арміі—гэта ўсё адна асоба—марш. Пілсудскі, дык Камітэт будзе ўсяго з трох асоб. Генаральны інспэктар арміі будзе ў Камітэце галоўным дакладчыкам усіх спраў.

### Бюджэт на 1927 г. ужо гатовы.

Польскі ўрад ужо ўлажыў бюджэт на 1927 год, азначыўшы агульную суму выдаткаў на 1890 мільёнаў злотых... Быццам уся гэтая вялізарная сума выдаткаў будзе напэўна пакрыта даходамі. Урад мае думку навет перавысіць даходамі суму выдаткаў. У афіцыяльным паведамленьні аб гэтым сказана важна, што „ня можа быць і мовы аб якім-небудзь дэфіцыце (недахваце) ў бюджэце. Дык усялякія чуткі аб гэтым павінны разглядацца, як антыпаньствовая праца“...

Як ведама, гэтай антыпаньствовай працай займаецца цяпер найбольш „паньствовая“ партыя: эндэцыя...

### Сойм мае быць склікаты 28 кастрычніка.

„Кур. Поран.“ даведаўся, што прэзыдэнт мае склікаць Сойм на бюджэтную сэсію на 28 кастрычніка.

### Спадак польскага злотага.

На варшаўскай біржы некалькі дзён наглядаецца спадак злотага, які ў пэўны дзень дайшоў быў да 9,15 за даляр; а пасьля крыху падняўся. Улады Польскага Банку склікалі нараду, пасьля якой выдалі адозву, сцьвяржачы, што Банк без абмяжаваньня мяняе злотыя на даляры, дык няма ніякай падставы для нейкай „нэрвовасьці“ польскай валюты... Аднак-жа, можа, з прычы спэкуляцыі, пані польская валюта крыху нэрвуецца, як усялякая пані, часам і—без падставы...

### Замена „білетаў здавковых“ (скарбовых) — злотымі Польскага Банку.

Як ведама, Грабскі выпусьціў так-званых „білетаў здавковых“—скарбовай эміcіі, не забясьпечанай фондамі Польскага Банку,—больш навет, як банкнотаў, ці злотых, выпушчаных пад гарантыю Польскага Банку.

Цяпер урад пастанавіў паволі—ў працягу 10 гадоў—выцягнуць з абароту ў краі гэтыя „здавковыя білеты“, заступіўшы іх банкавымі злотымі.

### Надзвычайны агульны зьезд дзяржаўных урадоўцаў.

У Варшаве 10 кастр. распачаўся агульны надзвычайны зьезд дэлегатаў дзяржаўных урадоўцаў усей Польшчы. Зьезд мае абгаварыць справу матэр‘яльнага палажэньня ўрадоўцаў—у зьвязку з узрастаючай дарагоўляй і адмовай ураду — падвысіць плату... Сьпярша дэлегаты і прэзыдыум пачалі працу вельмі энэргічна, рэзалюцыі былі ўложаны сільныя, рашучыя. Але пасьля раптам, як піша „Роботнік“, настрой зьезду адразу неяк заламаўся, усе рэзалюцыі былі—„перапрацаваны“, і дэлегаты разьехаліся, не зрабіўшы нічога, — ў вельмі „падбітым стане духа“, пакінуўшы галоўнай управе ўсю акцыю... — „Змарнавана добрая аказія“, канчае так заметку „Роботнік“.. — Ведама-ж— пастрашылі „камуністамі“,—дык і робяць, што хочуць, з галодным працаўніком...

Сэкрэтар К-ту Верабей ахарактэрызаваў палітычную сытуацыю, а Старшыня К-му Садаўнічы—палажэньне беларускае школы, пасьля чаго гучнымі воплескамі была прынята рэзалюцыя з дамаганьнем падзелу зямлі бяз выкупу, звальненьня палітычных вязьняў і г. д. Сход падняў бадзёрнасьць сялян,—тут-жа запісаліся ў „Грамаду“ 20 асоб; не памагло тут і дзяўканьне вясковых шпікоў.

Чэсьць масалянцам! Хай служаць яны **прыкладам** для другіх.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

447. у в. **Адамаўцы**, Гарадоцкае гм., Маладэчанск. пав.
448. у в. **Даўгулі**, Гарадоцкае гм., „ „
449. у в. **Слабада**, Пяршайск. гм., Валожынск. пав.
450. у в. **Сіняўская-Слабада**, Дзяраўн. гм., Стаўп. пав.
451. у в. **Канюхі**, Падароскае. гм., Ваўкавыскага пав.
452. у в. **Гічыцы**, Борка-Гічыцкае гм., Косаўск. пав.
453. у в. **Руціцы**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав.
454. у в. **Міхнавічы**, Борка-Гічыцкае гм., Косаўск. пав.
455. у в. **Ябланка**, „ „
456. у в. **Аляксеяўцы**, „ „
457. у в. **Усто**, „ „
458. у в. **Пранчэйкава**, Гарадоцк. гм., Маладэч. пав.
459. у в. **Асінаўка**, Празароцк. гм., Дзісьненск. пав.
460. у в. **Надазер'е**, Пліскае гм., „ „
461. у в. **Гаравыя**, Празароцк. гм., „ „
462. у в. **Слабада**, Пліскае гм., „ „
463. у в. **Папялах**, Празароцк. гм., „ „
464. у в. **Паніжаны**, Лунненскае гм., Горадзенск. пав.
465. у в. **Баўдзілаўцы**, Гарадышчан. гм., Баран. пав.
466. у в. **Мікольцы**, Мядзёльскае гм., Пастаўск. пав.
467. у в. **Кляпіцы**, Докшыцкае гм., Дзісьненкага пав.
468. у в. **Чарлёнка**, Дубенскае гм., Горадзенскага пав.
469. у в. **Навасёлкі**, Берштанск. гм., „ „
470. у в. **Кудзеўцы**, Гарадоцкае гм., Маладэчан. пав.
471. у в. **Вострава**, Міжавіцкае гм., Слонімскага пав.
472. у в. **Чэрлёна**, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав.
473. у в. **Пастэрнакі**, Богінскае гм., Браслаўск. пав.
474. у в. **Сьліжы Пяскоўцы**, Курылав. гм., Слонім. пав.
475. у в. **Кайшова**. Скідэльскай гм., Горадзенск. пав.
476. у в. **Баброўнікі**, В.-Берастав. гм., „ „
477. у в. **Бурстаўшчына**, Галынскае гм., „ „

# ХРОНІКА.

**Школьнае будаўніцтва на правінцыі.** У мястэчку Глыбокім, Дзісенскага павету, утвораны Аддзел Таварыства Беларускае Школы. Гэты Аддзел паставіў сваею мэтаю пабудаваць дом для Беларускае Гімназіі, у якім будуць вучыцца нашы дзеткі. Глыбоцкі Аддзел прыслаў сваю адозву і просіць усіх сьвядомых беларусаў ахвяраваць, хто колькі можа, на будынак.

Зьмяшчаючы гэту адозву, мы з свайго боку зварачаемся да ўсіх сыноў нашае зямлі з гарачаю просьбаю падтрымаць гэтую добрую думку і ахвяраваць, хто колькі можа, на будынак для Гімназіі, ў Глыбокім.

**Публічная лекцыя.** У нядзелю, 17 кастрычніка, у 3 гадз. дня ў салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9) доктар філялёгіі Я. Станкевіч, які нядаўна прыехаў з Прагі Чэскай, прачытае вельмі цікаўную лекцыю на тэму: **„Беларускія мусульмане і беларуская літэратура арабскім пісьмом“.**

Лекцыя даступная для ўсіх; уваход бясплатны.

Трэ' адзначыць, што грам. Станкевіч прымаў самае дзейнае ўчасьце ў расчытаньні ў Пражскім унівэрсытэце Аль-Кітабу — сьвятое кнігі Мусульманскае з 16 сталецьця, напісанае пабеларуску арабскімі літэрамі.

**Рыхтуюцца!** Газэты падалі, што ў Вільню прыехаў з Варшавы з нейкай „таёмнай“ місіяй інспэктар палітычнае паліцыі п. Спарскі.

Судзячы з апошніх правакацыйных выступленьняў віленскае польскае прэсы проці „Грамады“, трэба думаць, што палітычная паліцыя разам з правымі і левымі „санатарамі“ апрацавала ўжо плян паходу проці адзінае беларускае масавае арганізацыі—пад відам барацьбы з „бальшавізмам“.

**Афіцыяльны курс грошы на 15-га кастрычніка** Даляр—8 зл. 97 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

15. X. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,03. Зал. руб. 4,85. Чырвонец 48,50

# Пісьмо у Рэдакцыю.

На падставе арт. 21 Дэкрэту ў справе тымчасовых пастаноў аб прэсе ад 7/II 1919 г., прашу выдрукаваць наступную папраўку:

У № 11 „Народнае Справы“ з 26/VIII г. г. была надрукована заметка пад назовам: „Б. паліцыянты—сябры разбойніцкае банды“.

Пералічаныя ў гэтай заметцы і абвінавачаныя ў разбойствах Станіслаў Славэцкі, Пётра Ленартовіч, Чэслаў Мужын, Міхал Манко, Аляксандар Смаляк, Антон Марцінкевіч, Антон Тэрлецкі, Ян Наваkоўскі, Ільдефонс Гэйбо, Станіслаў Лубунскі, Антон Борэйко і Уладзіслаў Гедройц—ніколі ня служылі ў радох Дзяржаўнае Паліцыі Віленскага Ваяводзтва.

**Камэндант Ваяводзкі П. П** (подпіс).

# Карэспандэнцыі.

### Ня любяць Грамады!

(Маладэчанскі пав.).

На дарожным слупе каля поля двара Пятроўшчына сэнатаркі Карніцкай хлапцы прыклеілі адозву Пажарышчанскага Камітэту Грамады, зьмешчаную ў № 6 нашае газэты „Народная Справа“. Але ня доўга, дзякуючы паном, красавалася на слупе гэна адозва: толькі ад рана да падвячорка. Відаць яна вельмі непакоіла паноў, бо навет маладыя паненкі—госьці Карніцкай, пашоўшы нібы на шпацэр, пастараліся яе сарваць. Адозва была так моцна прыклеена зацiркай, што паненкі сарваць яе не далі рады і мусялі падрапаць шпількамі з валасоў на маленькія кусочкі.

Трэба прывыкаць, паночкі і паненачкі, і да неспадобнага, бо ўжо наш брат селянін прачхнуўся і ня хоча скакаць пад вашу дудачку, як вам падабаецца! **Грамадзянін.**

### Панская самаволя і зьдзекі.

(З Дзісеншчыны).

Што „маральная рэвалюцыя” дадала ўсім панам адвагі, асабліва абшарнікам, — дык гэта не сакрэт, бо кожны дзень прыносе нам весткі аб панскай самаволі і зьдзеках над бедным працоўным народам.

Гэтак уласьнік фальв. Палевачы, Празар. гм., Урбановіч неяк аднаго дня дазволіў сваім кватарантам пасьцьвіць скаціну на іржышчу, а на другі дзень забараніў. Жыхары фальварку пагналі скаціну на старае месца. Каровы нечага спудзіліся і пабеглі дамоў. Жых. фальварку Фейгель Эстэрка—старуха 70 гадоў—выйшла варочаць жывёлу ў поле. Тутака выляцеў Урбановіч, пачаў крычэць на старую і пхнуў яе кулаком у грудзі,

За старуху ўступіўся яе зяць Р. Язмір, які найдалікатней зьвярнуў увагу пану, што гэтак абходзіцца з людзьмі —ды яшчэ з старымі нягожа. Але гэты пан, знаючыся гэтулькі на далікатнасьці, колькі нехта на памаранчах, аблаяў і ўдарыў Язміра, а пастух кінуў апошняму камянем у галаву. У дадатак пан закрычэў, каб хутчэй адыходзіў, бо ён яго можа і застрэліць.

Не сумляваемся, што гэты пан можа і застрэліць чалавека. Ня гэтак даўно гэты-ж „панок” адрэзаў у каня жых. ф. Палевачы Голдзіна хвост

## Адцьвітаньне.

Сэрца б'ецца ў паўсьне,
Думка сэрцу аб вясьне
Здрадны голас падае
Я. Купала.

Разьліліcь у прыродзе
Фарбы адцьвітаньня,
Тоны журбы й смутку,
Як на разьвітаньні...
Золатам бярозы,
Чыстым, быццам сьлёзы,
Навіліся пышна....
Ціха—паціхутку
Жоўты ліст сарвецца
І, як нецьвярозы
З ветрыкам нясецца...
Неба сіняй дальлю
Млеючы сьмяецца...
Зьзяючы на сонцы
Срэбнаю вуальлю
Ляціць павуціна —
Высака—высака...
Проста, як зьмяіна,
Ў'ецца каляіна...
Эх, пайсьці далёка!...
Фарбы адцьвітаньня
Тоны журбы й смутку
Млеюць яны ў сэрцы,
Як на разьвітаньне!..

**Хв. Ільяшэвіч.**

„польскага Мусоліні”—Пілсудскага. Мы адзначым толькі найбольш характэрнае і цікаўнае для нас.

Перадусім лектар нарысаваў той фон, на якім вырас і працаваў Пілсудскі.

Пасьля падзелу Польшчы яе суседзямі ў канцы XVIII сталецьця у польскім грамадзянстве, як маральны рэзультат пакуты за праступную пасыўнасьць пакаленьня, што дапусьціла падзел і гібель бацькаўшчыны, пачынае шырыцца і глыбіцца—рэлігійны **культ дзела**. „Хай Польшча — ў труне, але ў ёй народ павінен быць заўсёды жывы. І калі ён ня можа рабіць нічога іншага, дык—хай прынамся б'е з усіх сіл у крышку сваей труны, каб кожны, хто йдзе міма, чуў і ведаў, што тут пад зямлёй закапаны—жыўцом пахаваны—чалавек, жывы народ“. Можа ў каго і спародзіцца жаданьне—адкапаць яго.

Пекна кажа п. Серошэвскі. Слухайце-ж яго рады, павадыры беларускага народу, жыўцом закапанага на „крэсах“. Хай толькі той жа п. Серошэвскі параіць сваім „родакам“—не злаваць на жывых беларусаў за тое, што яны як-мага галасьней стукаюць у крышку сваей труны, каб іх—пачулі па-за межамі Польшчы!..

Яшчэ больш цікаўна і павучальна для нас тое, што казаў п. Серошэвскі аб тым, дзе ў якіх слаях сацыяльных—гэтае польскае грамадзянства аказалася найбольш жывым,—адкуль пайшло адраджэньне, гэтая нічога не палохаючаяся барацьба за сваю вольную дзяржаву. „Культ дзела“ „сярод буржуазнага грамадзянства ў Польшчы, падзеленай між заборцамі, хутка зьмяніўся на — „культ няволі“—бязьдзейнасьці“. Паны ды панкі польскія пачалі прыстраівацца на розныя цёплыя мейсцы ў трох варожых дзяржавах, пакінуўшы думку аб Польшчы. І вось тады пачалося запраўды-ж найбольш агіднае зьявішча, з якім аднак-жа польская буржуазія вельмі добра мірылася за розныя прывілеі, прадаючы свой народ заборцам. Заборчыя дзяржавы ганялі польскіх сялян і работнікаў на вайну, пасылаючы іх навет біць **сваіх-жа братоў** з розных „забораў“. Хай-бы шляхотны лектар успомніў, што тое-ж агіднае абураючае зьявішча можа ў кожны мамэнт здарыцца ў сучаснай Польшчы, дзе беларусы ці украінцы розных дзяржаваў могуць быць змушаны біць на вайне адны адных. Абураўся аратар і на дэнацыяналізацыю праз школы—нямецкія і расейскія—у тыя царскія часы, забыўшыся пратэставаць проці таго, што робіцца цяпер у Польшчы дэмакратычнай. І вось—адзін толькі **пралетарыят**, адны толькі работнікі ў Польшчы не заразіліся гэтым „культам подласьці“ ды бязьдзейнасьці,—казаў аратар.

Пілсудскі, вярнуўшыся з Сібіры, знайшоў толькі ў работніцкай клясе жывы дух і жаданьне волі — у ўласнай дзяржаве. Дык толькі сярод іх Пілсудскі і распачаў тады сваю працу. Пралетарская салідарнасьць работнікаў якраз і зьявілася тым зародкам, з якога вырасла пасьля вялікая вайсковая арганізацыя — армія, якая, як кажа лектар, і зьдзейсьніла адраджэньне Польшчы.

Маючы на мэце гэтае адраджэньне, Пілсудскі гаварыў работнікам не аб барацьбе клясаў, але наадварот — аб неабходнасьці першым чынам гуртавацца, вучыцца ваеннага дзела, каб у адпаведны мамэнт стварыць мілітарную сілу, з якой-бы павінны былі лічыцца ворагі і саюзьнікі.» Усе тады лаялі Пілсудскага, але работнікі пайшлі за ім.

Пілсудскі многа працаваў над арганізацыяй слаўных першамайскіх паходаў у Варшаве, Лодзі і інш.—у царскія часы, калі толькі адны работнікі падыймалі чырвоны штандар барацьбы з царызмам... У часе гэтых паходаў у яго і спарадзілася думка—пляновага ваеннага ўзгадаваньня і азбраеньня польскага пралетарыяту, над зьдзейсьненьнем якое ён і пачаў працаваць... І мы ведаем, якія запраўдныя баі пачаліся на вуліцах Варшавы і Лодзі пасьля Японскай вайны і ў часе першай расейскай рэвалюцыі—між польскімі работнікамі з аднаго боку і паліцыяй ды расейскім войскам—з другога... Некалькі гадоў уся Польшча была пад ваенным палажэньні. Скарыстаўшы з часовай слабасьці Расеі, Пілсудскі пачаў шырока закладаць работніцкія баёўкі, якія даўгі час трымалі ў страху акупацыйныя арміі расейцаў.. На тэрор ваенных уладаў і паліцыі азброеныя работнікі адказывалі яшчэ большым тэрорам... І гэтым слушна захопліваецца шляхотны лектар, прынамся, пакуль мова ідзе аб работніках... польскіх!

Выпрабаваўшы гэтак сілу азброеных работніцкіх баёвак, Пілсудскі пачаў ваенна ўзгадоўваць усю польскую моладзь у школах, вучачы іх ваеншчыны, хаця і без карабінаў, прывучаючы іх да ваеннай дысцыпліны. І калі выбухнула вайна, усё гэта прыгадзілася — сьпярша, праўда, заборцам, але пасьля—і самім палякам — дзеля адбудовы Польшчы. Калі немцы і саюзьнікі ўжо добра пабілі адны адных, тады настаў мамэнт і для Польшчы і для яе падрыхтаванай вайсковай сілы...

Калі Пілсудскі ўжо атрымаў уладу ў Польшчы, яму ўсе прапанавалі (мо' і сам Серошэвскі?!), каб ён абвясьціў сябе дыктатарам... Але Пілсудскі сказаў:—„—Не, я „царом” у Польшчы ня буду”... —„Трэба, каб увесь народ сам сабой упраўляў, як грамадзянін сваей Рэспублікі”. Бо ж у гэтым толькі — залог сілы і трываласьці дзяржавы... „Пілсудскі ня мог зрабіцца кракадылам, калі ніколі ім ня быў”,—кажа лектар... Замест царскага „бата” Пілсудскі **тады** абвясьціў той „лёзунг волі і самаўрадаваньня, які Ліга Народаў праводзіць у жыцьцё народаў, але які даўно ўжо быў выдуманы Польшчай—яшчэ ў Гарадэльскай Вуніі” (?!) „Польшча **павінна** гуртаваць навакол сябе народы—сваім культурным харастwом і талеранцыяй”... —Роўны з роўнымі, вольны з вольнымі, гэта якраз і ўнёс Пілсудскі ў палітыку сьвету... Гэта ён нясе і ўсім народам Польшчы...

Сколькі гэтыя **словы** маюць супольнага з **дзелам**, якое мы дагэтуль бачылі й бачым ад пана Пілсудскага і ягонага ўраду,—ну, аб гэтым можа судзіць кожны беларускі селянін і работнік, маючы „фізычныя доказы” на сваей сьпіне... І калі пасьля ўваскрашэньня Польшчы Пілсудскі не захацеў быць ані „царом”, ані „кракадылам”,—дык **цяпер**, сулячы Сойму „бат”, мусіць пачаў інакш заглядацца на гэту справу, доказам чаго служыць уваход у склад яго ўраду—ярых манархістаў!..

ажна да касьці, а некалі застрэліў парсюка ў жых. таго-ж фальварку—Аскіркі.

Ну,—чым ня пан? Усё абыходжаньне чыста панскае! **Пацярпеўшы.**

### Пацяшаючае зьявішча".

(З Дзісеншчыны).

Кожны раз 13-га чэрвеня ў м. Празароках адбываецца касьцельны фэст св. Антона. Фэст, як фэст заўсёды, пачынаўся малітвай, а канчаўся пьянствам. Па ўсіх хатах таўкліся грамадкі людцаў, а перад імі стаялі бутэлькі гарэлкі. Такія-ж грамадкі можна было спаткаць і па садох, і па сенажацях, а то і проста за вуглом. І ўсё гэтае мора галоў піла, пяяла, гаманіла, сварылася, а часам білася. Па равах, як на полю бітвы, ляжалі напіўшыяся да бяспрытомнасьці. Гэтак дзеялася яшчэ два-тры гады назад.

Сёлета-ж абраз зьмяніўся. Ці, мо' у гарэлачнай краме нехапіла гэтае атруты, ці мо' ў нядзелю крама была зачынена (хоць тамака і ў найвялікшае сьвята можна дастаць бутэльку, — як кажуць, з „чорнага ходу"), ці патаемныя шынкары не зрабілі запасу, а толькі фэст быў цьвярозы. Ня было відаць нат' „падгумажоных", і ў гадзін чатыры папаўдні мястэчка апусьцела.

Праўда, цяжка цяперака і на злоты, але зьявішча пацяшаючае, і пажадаем, каб яно часьцей аб'яўлялася.

Мо' хто быў і нездаволены з цьвярозага фэсту, але не шкадуйце, браты сяляне, гэтага! Застаўшыяся злотыя, якія пайшлі б на атруту, здадуцца на што лепшае ў гаспадарцы, за іх падзякуюць вам і вашыя дзеткі.

Адзін жыхар мястэчка, у якога той-сёй пытаўся: дзе дастаць бутэльку?—стыдзіў іх і казаў, што гэтага ня ведае, але ведае і раіць лепш пашукаць добрае газэты, якая асьвеціць розум, а не затуманіць яго, як гарэлка. Пэўна каму-небудзь гэтая рада і запала ў сэрца, бо пытаўшыяся чырванелі і спакойна адхадзілі.

Гэтак, браты,—хутчэй, хцівей да друкаванага нашага слова, якое вывядзе вас з цёмры і давядзе да сьвятла і лепшае будучыны! **Нядоля.**

### Дэфэнзыўны „дзеяч" у ролі адваката".

(Горадзеншчына).

Усім ведамы на горадзенскім бруку дэфэнзыўны „дзеяч" Янка Шурпа („дзеяч" у Паўлюкевічаўскім духу!), які так доўга тэрарызаваў беларускі рух у Горадзенскім павеце. І вось сёньня, калі ўся Заходняя Беларусь зразумела, да чаго імкнуцца ўсе гэныя ашуканчыя партыі з іх „павадырамі", ды сяляне сталі ладзіць сваю арганізацыю Б. С.-Р. Гр., якая бароніць інтарэсы працоўных, калі беларускае грамадзянства з энтузіязмам вітае гэну арганізацыю — усе ашуканчыя партыі пачалі банкрутаваць, і грунт для іхнае працы стаў уцякаць спад іх ног. Вось, каб прадоўжыць сваё істнаваньне, яны пусьціліся на розныя „фокусы".

На такі пашоў і Янка Шурпа. Паехаў ён у Скідэльскую гміну шукаць грунту ў другой галіне працы і вось, зрабіўшыся „адвакатам", (хаця ніколі ім ня быў), пачаў абіраць жыхароў, кажучы, што будзе бараніць іх справы ў судзе, ды каб яны далі наперад яму грошы. Так ён выцягнуў у жыхара Скідэльскае гміны Корса 170 злотых і ў многіх другіх. Калі прышоў дзень разборкі справы, прыяжджае на суд гэны самы гр. Корс і пытаецца ў судзе: а дзе мой адвакат? Яму кажуць: які адвакат?—А вядомы беларускі дзеяч Шурпа! Ну, яму кажуць: ідзі сабе, шукай сваго адваката, а мы будзем разьбіраць без яго справу.

Сьцеражыцеся, беларусы, такіх „дзеячоў": адны з іх „адвакаты", другія—„дактары", а ўсе разам імкнуцца толькі да аднаго: як-бы на кошт працоўных пажывіцца! **Вока.**

### „Kominiarze".

(Вёска Залукі, Гарадоцкай гм., Беластоцкага п.).

13 жніўня г. г. ў нашу вёску зьявіліся нейкія „каміняжэ"—4 чалавек, — чысьціць коміны. — Мусіць у паноў няма заробку, дык шукаюць па бедных сялянах.—Бяз усякага дазволу ў людзёў— трэба ім коміны чысьціць ці не, — і памялом пашараваўшы трохі комін, яны прымушалі жыхароў плаціць ім па 50 грошаў..., а хто ня меў, дык таго „запісвалі". Лазячы па зямлянках і маленькіх хатках бедных, не адбудованых яшчэ пасьля сусьветнай вайны, жыхароў, „камінары" (ведама „не-знарок") прарываліся на без таго ўжо дзіравых саломянных стрэхах. Дзеля таго, каб як збавіцца ці адчапіцца ад няпрошаных парабкоў, ломячых стрэхі і баючыся, каб не паламалі ім да рэшты каміноў, сяк-так зробленых з каменьняў і кусочкаў цэглы, іншыя з сялян давалі па 50 грошаў, збы толькі ня „чысьцілі" гэтых каміноў. Яны-ж і ня чысьцілі, дзякуючы Богу за дарэмныя грошы... Але ўсё зарабілі. **„Падумаўшы".**

## Нам пішуць з вёскі што:

× 5-га верасьня моладзь з в. в. Зарэчча, Новых-Руткавіч і Нагорных, Карэліцкай гм., Наваградзкага пав., і моладзь в. Казённыя-Амневічы, Гарадэчанскае гм., — сьвяткавалі **дзень моладзі**: дэманстрацыйна прахорзілі з чырвонымі сьцягамі і пяяньнем „Ад веку мы спалі"... ды другіх рэвалюцыйных песень.

× 6-га верасьня с. г. ў Празароках, Дзісьненскага пав., на кірмаш сабралося многа народу. Тутжа сябры „Грамады" прадавалі беларускія газэты. Народ так і рухнуў да роднай газэты,—кожны стараўся купіць—не спазьніцца. Дэфэнзыва і паліцыя, хоць страшыла 6 гадамі крэпасьці, але не запалохала ані прадаўца, ані купляючых.

× „Ацец" Чаквін з м. Крынак, Горадзенскага пав., хоць паходзіць з беларускай сям'і і быў доўгі час вучыцелем у беларускай вёсцы ў Сакольскім пав., цяпер кажа, што ён ніяк ня можа навучыцца гутарыць пабеларуску. Беларускі рух яго страшыць і ўсялякімі спосабамі ён стараецца адгаварыць сялян ад гэтага руху. У царкоўных пропаведзях расказвае прыхаджанам байкі, што ў Радавым Саюзе, дзе ўлада сялян і работнікаў, — жывецца блага. Бярэ ён грошы з жывога і мёртвага, а як прыяжджаў 8. (21). IX. с. г. архірэй, то загадаў прыхаджанам знасіць пачастку для архірэя.

× Як прыехаў Рыгор Майсюкевіч—селянін з в. Раўка, Скідэльскай гм., Горадзенскага пав.,—з Вільні са „зьезду" Павлюкевіча, то быў шчырым прыхільнікам „Грамады", а цяпер, зьнюхаўшыся з дэфэнзыўшчыкам Шурпаю, што пястоўцам цяпер зрабіўся,—розную брахню выдумвае на „Грамаду". Да яго далучыўся Павал Міхно і раўкаўскі солтыс, — і брэша гэтая тройка на „Грамаду", як сабакі часамі ўначы, задраўшы галавы— на месяц.

× Уначы з 5 на 6 верасьня с. г. ў в. Рутковічы, Карэліцкай гм., Наваградзкага пав., былі раскіданы камуністычныя адозвы, пасьля чаго адбыліся арышты; арыштаваны 34 асобы, з якіх адных звольнілі на другі дзень, другіх засадзілі на адзін месяц, а трэціх на 2 месяцы вастрогу.

× Хлеба няма, зарабіць недзе,—хоць ты зямлю еш! Дзеці плачуць — дзяруць бацьку душу! А зьбярэш апошнюю капейку, што засталася ад падаткаў, — пойдзеш да кулака Карсака Міхася, каб купіць хлеба, дык ён і за грошы не прадасьць, кажучы: „Грошай сваіх я ня маю дзе дзяваць"! Гэты кулак і яго дзеці і гаварыць ня хочуць пабеларуску з бяднейшымі сялянамі, — кажуць, што гэта мова брыдкая і вельмі ім не падабаецца. Па чым можна было-б пазнаць гэтых вырадкаў, калі-б не па гэтай дурнаце іх?!

× Каля м. Супрасьля, Беластоцкага пав., парцэлявалі манастырскі двор „Клапіцкі". Дык вось цікаўна, каго надзялілі: беластоцкі ваядода дастаў—10 дзес; ксёндз з Супрасьля—20 дзес.; лясьнічыя з Супрасьля і Сакалды—па 10 дзес.; і поп Вахлёў з м. Васількова—25 дзес. Рэшту 20 дзес. — заросшага балота, што не хацеў браць ніякі ўрадовец, далі па дзесяціне сялянам з в. Дуброўкі. Гэтак выглядае „Зямельн. Рэформа".

× Тодар Церашынскі добрым быў солтысам для сялян в. Любанічы, Цырынскай гм., Наваградзкага пав., але не падабаўся ён старосьце. Тры разы выбіралі яго сяляне, і тры разы не зацьвярджаў яго староста, а нарэшце загадаў зрабіць у яго вобыск і праз паліцыю назначыў „свайго"—Міхала Жылку, які і душыць цяпер сялян, п'янствуе, ды служыць паном. Так пры „будове" сарванага на р. Сэрвэчы мосту ганяў сялян з падводамі, а сам п'янстваваў з тэхнікам, а мосту як ня было, так і няма ўжо блізка год.

× 7 га верасьня с. г. селянін Шаблоўскі купіў у другога селяніна ў м. Ёдах, Браслаўскага пав., кусок сала, якое,—як аказалася,—упярод таргавала жонка мясцовага каманданта. Дык за гэта камандант з жонкаю і паліцыянтам арыштавалі грам. Шаблоўскага, завялі на пастарунак, напісалі пратакол і пры гэтым нягодна злаялі селяніна.

× Салдаты 2 палку, 2 швадрону ў в. Раўкі, Скідэльскае гм., Горадзенскага пав., вось чаго натварылі: 1) У Сымана Салея ўначы ўзялі 2 снапы аўса і сена; 2) У Якуба Салея выгналі яго коні з хлява і паставілі салдацкія; 3) У Ягора Гарошка забралі паўвоза насеннай кормнай і 15 кучак насеннай канюшыны. 4) У Міхала Салея таксама забралі насенную канюшыну; 5) У Майсюкевіча Мікалая забралі лейцы; 6) Сымона Дарошыка з в. Сухаўляны зьбілі дапаўсьмерці ня ведама за што.

× Хведар Грышкевіх, былы войт Малецкай гм., Пружанскага пав., забіраў апошнія рэчы ў сялян за падаткі, браў лішнія „падаткі", што сцьвярдзіў інспэктар. Душыў ён сялян і піў за народныя грошы; і за гэта яго толькі скінулі з войтаўства, не пакараўшы навет!..

× Перайшоў поп Шчасновіч — у м. Падароск, Ваўкавыскага пав., — у вунію, а народ за ім не пайшоў, дык мусіў ён сам уцячы з Падароску, ключы аддаў абшарніку А. Бохвіцу. Бохвіц выпісаў ксяндза, які з царквы зрабіў касьцёл, выкінуўшы царкоўныя рэчы проста на могілкі. Вось табе; „tradycyjna tolerancja polska".

### ЗАПЯРЭЧАНЬНЕ.

Тэхнік Герасімовіч з пошты ў Слоніме на заметку ў № 15 „Народнай Справы", што „Тэхнік Яўхім Герасімовіч з пошты ў Слоніме наймаў рабочых пры правядзеньні тэлефоннай лініі Слонім-Жыровічы і грошай да гэтай пары не заплаціў і „Хамамі" абзывае рабочых, калі прыдуць па грошы",—прыслаў у нашу рэдакцыю запярэчаньне, што ўсе гэта няпраўда. Адначасна ён прыслаў нам усю грашовую справаздачу, дзе паміж іншым сам прызнаецца, што ён у паразуменьні з начальнікам вымагаў ад рабочых падпіскі пад усімі рахункамі, што грошы атрымалі, тады, калі рабочыя не атрымалі грошай, ды што выплата зацягнулася, бо начальнік грошы ня зразу прыслаў.

Зьмяшчаючы гэтае запярэчаньне, паведамляем, што справа гэтая стрымацца ня можа, бо ўжо мы перадалі яе ў Пасольскі Клюб Белар. Сялян.-Раб. Грамады для інтэрпэляцыі ў Сойме.

# Грамадзянэ!

Доўгія часы чакалі мы сваей беларускай школы, ды яе няма. Праходзяць гады за гадамі, дзеткі бадзяюцца па вуліцах, а доўга чаканая школа не паўстаець. І не паўстане, калі мы ня прыложым максімум высілкаў дзеля яе стварэньня. Нельга траціць ні адное мінуты на чаканьне і нямашака надзеі на дапамогу ад каго-небудзь з боку. Мы самі мусім быць будаўнікамі свайго шчасьця, свайго жыцьця. „З міру па нітцы, голаму кашуля", кажа прыказка. Па аднэй цэглінцы на будоўлю з кожнага, і на лета дзеткі паўночнага кутка Заходняе Беларусі будуць магчы хадзіць у сваю беларускую гімназію ў Глыбокім.

На першы заклік Т-ва Беларускае Школы ў Глыбокім многія адгукнуліся і ўнясьлі сваю ахвяру. Але гэтага мала. Мы ўсе, як адзін, павінны даказаць сваім ворагам, што, ня гледзячы на сваю беднасьць, умеем і можам прыступіць да творчае працы.

Грамадзяне! Вы даказалі сваю сьпеласьць у тварэньні палітычных арганізацыяў; пакажыце гэта і ў галіне культурнага будаўніцтва.

Сябры! Хто-б Вы ні былі і да якой-бы палітычнай групіроўкі Вы ні належалі, прыдзеце з дапамогай у нашай агульнай нацыянальнай справе. Падумайце аб сваім гаротным жыцьці. Бяз нас самых яно не паправіцца. Ведаем, што кожны грош зарабляецца з вялікім трудом, а яшчэ цяжэй яго зьберагчы. Ня гледзячы на гэта, заклікаем Вас прыйсьці з дапамогай. На трудавыя грошы збудуем вялікі гмах, у якім знойдуць асьвету нашы дзеткі. Няхай ведаюць усе нашыя няпрыхільнікі, што праснуўся беларус і ўласнаю рукою сьпяшаецца збудаваць новае жыцьцё, працерабіць да яго новы шлях.

Жанчыны! Маткі і сёстры! Вы жывяцё сэрцам і, напэўна, адчуеце вялікасьць тэй справы, да якой Вас заклікаем. Памажыце нам. Злажыце самі пасільную ахвяру, ды заахвоцьце да гэтага сваіх мужоў і братоў. Няхай гэтае першае народнае будаўніцтва знойдзе водгук у Вашых сэрцах.

Грамадзяне! Вы, якіх лёс занёс далёка ад Бацькаўшчыны. Дзе-б Вы ні знаходзіліся—ці то ў Амэрыцы, ці то ў Нямеччыне, ці то ў Радавых Рэспубліках, ці ў іншых краінах, — успомніце аб нашых бедных вёсках. Успомніце нашыя палеткі, лугі, лясы; тыя мясьціны, дзе правялі свае дзіцячыя гады. Успомніце нашыя зруйнаваныя вайной вёскі, якія імкнуцца да асьветы, як расьлінкі да сонца. Пасьпяшыце дапамагчы нам. Унясіце сваю ахвяру ў агульную народную скарбніцу, каб дзеткі нашыя як найхутчэй маглі вучыцца ў сваей роднай гімназіі.

Грамадзяне! Мы верым, што прызыў знойдзе жывы водгук у Вашых сэрцах. Толькі па 20—50 грошаў з кожнага, і Вы выканаеце свой грамадзкі абавязак, а агульнай справе дапаможаце ў вялікай меры.

Ахвяры высылайце на імя скарбніцы Акружнае Управы Таварыства Беларускае Школы ў Глыбокім па адрасу: Глыбокае, Дзісьненскага павету вул. Сінкевіча 117, Вера Дрозд. (m. Głębokie, pow. Dzisna, ul. Sienkiewicza, Nr. 117. Wiera Drozd).

**Акружная Управа Т-ва Беларускае Школы ў Глыбокім**

## Паштовая скрынка.

**Грам. Палонскаму.** Наша вёска гэтак багата цікавасьцямі, прыкрымі і балючымі для нашага сялянства!—вось аб іх Вы й пішаце,—скарыстаем.

**Карэспандэнту**, апісаўшаму, як парабкі з двара Клентыбурка, Парафіянаўскай гм., Дунілавіцкага пав., зьбілі кіямі і ўзялі 20 зл. „штрафу" за тое, што Базыль Зілюк з в. Рэчкі, Даўгін. гм., Вялейскага пав., ехаў дарогаю каля гэтага двара. Карэспандэнцыі Вашай не зьмяшчаем бо не падалі Вы свайго ані адрэсу, ані прозьвішча.

**Грам. Пяру.** Ваша карэспандэнцыя „Наша начальства" не падходзіць, — яна бяз лёгічнага канца. Другая карэспандэнцыя: „Як паступае паліцыя", дзе Вы апісваеце, як паліцыянты № 187 і № 2018 згвалцілі дзяўчыну, мы з прычыны недакладнасьцяў у ёй не зьмяшчаем; гэту карэспандэнцыю перадалі мы ў Пасольскі Клюб Бел. Сял.-Раб. Грамады для інтэрпэляцыі ў Сойме. Калі гэта ўсё праўда, дык, як справа рассьледуецца і пацьвердзіцца, № 187 і № 2018 дастануць па 10 гадоў катаргі.

**Грам. Я. С. з Буйневіч.** З першай Вашай весткі карыстаем, аб другой ужо пісалі, а трэйцяй зьмясьціць ня можам з прычыны недакладнасьцяў у ёй.

**Адаму Міхневічу.** Думкі Вашы зусім слушныя, іх прыймаем да ведама і дзякуем Вам, але зьмясьціць у газэту дзеля незалежных ад нас прычын ня можам. Усюды ў газэце мы праводзім іменна тое, што Вы пішаце.

**Грам. Касьцяневічу.** Ані верш, ані карэспандэнцыя Ваша ў газэту не падходзяць.

**Грам. Сьвет—каву.** Аб паліцыянту і аб бандыце карэспандэнцыі не падходзяць.

**Карэспандэнту з Парэч.** Ня можна знайсьці сэнсу ў Вашай Карэспандэнцыі, а апрача таго нам трэба ведаць Ваша прозьвішча і адрас. Калі самі ня можаце пісаць, — папрасеце другіх, хто ляпей піша,—скарыстаем.

Адказны-Рэдактар: **К. Вайтовіч.** Друкарня **Я. Левіна**, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**